**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№27(639)**
**5 ліпеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





## Ці патрэбен нам футбол?

*Адказ на гэтае пытанне – на стар.5.*



## Міжнародная выстава сабак у Глыбокім

**7 ліпеня а 11-ай гадзіне**

Месца правядзення – пляцоўка насупраць камбікармовага завода.

***Запрашаюцца жыхары горада і аматары сабак.***

**Тэлефон для даведак: 8 (029) 716-19-08**

## Нас – 9 млн. 458 тыс. чалавек

Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 чэрвеня 2012 года склала 9 млн. 458 тыс. чалавек і ў параўнанні з пачаткам гэтага года скарацілася на 7,2 тыс. чалавек, паведамляе Белстат.

Прырост насельніцтва адзначаецца толькі ў Мінску. Тут на 1 чэрвеня 2012 г. пражывала 1 млн. 889,1 тыс. чалавек, што на 4 тыс. чалавек больш, чым на 1 студзеня.

Па абласцях назіраецца скарачэнне колькасці насельніцтва ў параўнанні з пачаткам года. На 1 чэрвеня ў Гомельскай вобласці пражывала 1 млн. 428,3 тыс. чалавек, Мінскай — 1 млн. 401,8 тыс, Брэсцкай — 1 млн. 390,3 тыс, Віцебскай — 1 млн. 210,7 тыс, Магілёўскай — 1 млн. 77,9 тыс, Гродзенскай — 1 млн. 59,9 тыс.

*БелТА*











## Дзеці-пешаходы! Лета – пара года, якая характарызуецца павышэннем дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму!

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

Гэта аварыя адбылася ў аўторак, увечары, у горадзе Наваполацку. Маці як звычайна, забірала сваю чатырохгадовую дачку з дзіцячага садка. Дзяўчынка, радасная, што прыйшла мама, у чаканні таго, што хутка будзе дома гуляць з любімымі цацкамі ці ў двары са сваімі сяброўкамі, выбегла за вароты садка і адразу ж патрапіла пад колы аўтамабіля «Рэно».

Усё гэта адбывалася ў раёне дваровай тэрыторыі, то кіроўца ехаў з хуткасцю, якая не перавышае 20 км/г, што і выратавала жыццё малой. Але ўсё ж траўмаў не атрымалася пазбегнуць, з пераломам галёнкі дзіця было дастаўленае ў цэнтральную гарадскую бальніцу і пасля аказання медыцынскай дапамогі, было адпушчанае з маці дахаты на далейшае амбулаторнае лячэнне.

З пачатку бягучага года з удзелам дзяцей-пешаходаў у вобласці адбылося 9 дарожна-транспартных здарэнняў. Менавіта па віне саміх дзетак, якія раптоўна выйшлі на праезную частку, ці пераходзілі дарогу па-за пешаходным пераходам, адбылося 6 аварый. Адно дзіця загінула, пяцёра атрымалі траўмы і калецтвы.

**Паважаныя бацькі!** Як вы можаце забываць, што з вамі побач знаходзіцца маленькі чалавек, за жыццё і здароўе якога вы несяце непасрэдную адказнасць. Бо ад вас залежыць, ці будзе ваша маляня і далей жыць шчаслівым і здаровым, ці яго лёс будзе скалечаны назаўжды. Засцерагчы дзіця – задача, якую можаце вырашыць толькі вы. Не адпускайце ад сябе маляняці нават у двары жылой тэрыторыі, дзе можа праязджаць аўтамабіль, трымайце яго за руку пры пераходзе праезнай часткі, тлумачце яму, як пераходзіць бяспечна дарогу, як і дзе гуляць на вуліцы, катацца на роварах, на роліках, самакаце. Простыя меры засцярогі і няўхільнае выкананне Правіл дарожнага руху дапамогуць пазбегнуць няшчасця.

Паважаныя кіроўцы! Варта праявіць асаблівую ўвагу і асцярожнасць, пад'язджаючы да месцаў скупнасці людзей, асабліва пад'язджаючы да дзіцячых дашкольных і школьных устаноў. Будзьце гатовыя да таго, што дзіця ў сілу сваёй дзіцячай непасрэднасці можа раптам выбегчы на праезную частку.

## Глыбоцкі раён

# Замест крываногага - Алея Славы

■ Чэслаў Якубовіч

**Усе меней часу застаецца да адкрыцця ў Глыбокім чарговага Дня беларускага пісьменства, якое сёлета будзе асабліва памятным, бо супадае з Годам кнігі ў Беларусі і з юбілеямі класікаў беларускай літаратуры.**

Напярэдадні свайго 600-годдзя райцэнтр нагадвае цяпер суцэльную будаўнічую пляцоўку, а цэнтральная яго частка абнаўляецца і прыгажэе з кожным днём. Старшыня нацыянальнага аргкамітэта па правядзенні свята, віцэ-прэм'ер РБ Анатоль Тозік на прайшоўшым тут выязным пасяджэнні застаўся задаволеным ходам падрыхтоўчых работ і падтрымаў шэраг асноўных напрацовак. Сярод найбольш значных стане адкрыццё ў Глыбокім сваёй Алеі Славы знакамітых ураджэнцаў краю. На месцы, дзе стаяў даволі нязграбны помнік крываногаму Леніну, з'явіцца месца шанавання памяці, сапраўды, больш дастойных людзей, чым бацька "чырвонага тэрору" і ініцыятар масавых распраў над хрысціянскімі святарамі. У Глыбокім збіраюцца ўстанавіць бюсты мясцовага грамадскага дзеяча Іосіфа Корсака, заснавальніка айчыннага тэатра Ігната Буйніцкага, славутага мастака Язэпа Драздовіча, авіяканструктара Паўла Сухога, гісторыка і краязнаўцы Вацлава Ластоўскага і іншых знакамітых землякоў. Райцэнтр атрымае дадатковую фінансавую падтрымку для дастойнага правядзення свята і дапамогу брыгадамі будаўнікоў і дарожнікаў з розных куткоў вобласці. Планецца да Дня пісьменства выпусціць шмат сувенірнай прадукцыі, арганізаваць вялікі кірмаш народных майстроў і промыслаў. Галоўнае, што гэта буйное мерапрыемства стане адным з этапаў да падрыхтоўкі будучага юбілею самога горада.

## Браслаўскі раён

# Не акінуць вокам блакітную гладзь

■ Станіслаў Раманчук

**З любога напрамку адкрыта моцным вятрам буйнейшае ў Браслаўскім раёне возера Дрывяты, якое ўваходзіць у пяцёрку самых вялікіх па плошчы водных угоддзяў у Беларусі.**

Большую частку года на ім гуляюць даволі вялікія хвалі, што прыцягвае забяспечаных людзей, якія могуць сабе дазволіць адпачыць на вадзе на ўласных яхтах. На гэту асаблівасць азёрнага краю адразу звярнуў увагу новы кіраўнік раёна Сяргей Шматаў. Старшыня райвыканкама ўжо публічна выказаўся, што было б недаравальна не развіваць тут водныя віды спорту і арганізаваць у райцэнтры свой яхт-клуб, паспрабаваць правесці нават спаборніцтвы на яхтах розных класаў пад парусам. У Браславе дагэтуль былі свае аматары так паплаваць, бо ў даўжыню Дрывяты працягнуліся амаль на 10 кіламетраў. З надыходам цёплага сезона сюды сталі прыязджаць уладальнікі яхт і для іх вырашылі арганізаваць першую рэгату, магчыма нават міжнародную, аб чым вялася размова на нядаўнім інвестфоруме падчас фестывалю "Браслаўскія азёры". У гэтай ідэі ёсць добрая перспектыва, дзе яшчэ сустрэнеш буйнейшую ў краіне групу з 31 возера Браслаўскай азёрнай групы. Таму тут нядаўна прайшоў рэспубліканскі турнір падводных паляўнічых з ружжом, які сабраў больш двухсот удзельнікаў не толькі з Беларусі, але і з Латвіі, Расіі і Украіны. Край вельмі цікавы для яхтсменаў, бо дно буйнейшага вадаёма пясчанае, вада інтэнсіўна перамешваецца і бывае цяплейшай, чым у аналагічных глыбокіх азёрах. Дарэчы, яшчэ перад вайной у Браславе ладзіліся гонкі і па замёрзламу льду Дрывят на буерах пад парусам і таму новы элітны від спорту павінен тут прыжыцца.

## Пастаўскі раён

# У стылі Раскольнікава

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам, асабліва ў сельскай мясцовасці, развялося шмат яшчэ не старых людзей, якія нідзе не працуюць, але любяць штодня прыкласціся да чаркі і прамышляюць чым папала, крадуць і п'юць**

. Ад іх усё часцей дастаецца пажылым адзінокім людзям, за якіх няма каму заступіцца. Вось і ў вёсцы Норыцы Пастаўскага раёна суботнім вечарам у дом такой 82-гадовай бабулькі завітаў такі няпрошаны госць. Мясцовы непрацуючы 46-гадовы вясковец з раней пагашанай судзімасцю даведаўся, што цётка напярэдадні атрымала пенсію. Мужчына нават даводзіўся старой далёкім родзічам і пачаў прасіць у яе грошай, каб апахмяліцца ў чарговы раз. Аднак пенсіянерцы надакучылі яго такія паводзіны і яна адмовіла вясковаму выпівоху. Гэта так абурыла мужчыну, што ў ходзе ўзнікшага высвятлення адносін, ён стаў моцна збіваць слабую жанчыну. Не спыніўся нелюдзь і тады, калі яго бездапаможная ахвяра павалілася на падлогу. У лютай злосці зламыснік схапіўся за малаток і тапор і, як сапраўдны звер, дабіў сваю зямлячку. Яе труп знайшлі тым жа чэрвеньскім днём, а потым міліцыя затрымала і забойцу, які пачаў даваць паказанні і прызнаўся ў сваім грэхападзенні. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа і злачынцу чакае вельмі суровае пакаранне. Аднак трывожыць, што на глебе гарэлкі ўсё часцей высвятляюць адносіны дзікім спосабам і маладзейшыя. 27-гадовага жыхара вёскі Бучавічы, раней судзімага, ледзь не забіла нажом падчас спрэчкі яго жонка. Нешта не падзялілі паміж сабой і жыхары райцэнтра, сталі махаць нажом, паранілі хлопца, але гэта злачынства было аператыўна раскрыта пры дапамозе ўстаноўленых у цэнтры горада камер відэаназірання.

# Лічба нумара

**700$** - да такога ўзроўню да канца года ў Беларусі, як заявіў А. Лукашэнка падчас заслухоўвання чарговага даклада аб рэалізацыі грашова-крэдытнай палітыкі, павінны прыватнікі давесці сёлета сярэднюю зарплату сваіх работнікаў. А вось у цэлым па краіне пастаўлена новая задача: акрамя росту заробкаў на дзяржпрадпрыемствах да 500 долараў у месяц неабходна кроў з носу выканаць паказчык па росце ВУП на 5,5 %. На месцах адразу ж пачалі патрабаваць гэта ад падначаленых, а наперадзе ўсіх аказалася зноў Віцебская вобласць, дзе пастаянна энергічны А. Косінец замахнуўся на ўзровень зарплат нават 650 "зялёненькіх".

Іншая справа, што такія рубяжы выклікаюць у дасведчаных спецыялістаў ды і ў простых людзей толькі горкую ўсмешку. Гэта – чарговы блеф і падман, паколькі наперадзе новая кампанія па абранні "кішэннага" парламента, а перад гэтым трэба залагодзіць паслухмяны электарат. Справа ў тым, што па дадзеных Белстата, на 13,8 % беларускіх прадпрыемстваў і арганізацый цяпер заробкі ў іх працаўнікоў меней 2 млн. рублёў у месяц. На такія даходы жывуць паўмільёна чалавек, альбо 14,5 % занятых у народнай гаспадарцы і вельмі многія ў бюджэтнай сферы.

Праўда, сталіца Мінск адарвалася ад астатніх рэгіёнаў па даходах, але ж там больш высокія цэны на большасць тавараў і паслуг. У рэгіёнах зарплаты значна больш нізкія, асабліва ў Брэсцкай і Віцебскай абласцях. У Прыдзвінні яны былі б яшчэ больш мізэрнымі, але ж цягне астатніх наверх індустрыяльны нафтахімічны Наваполацк. З іншага боку цяпер беларусаў прымушаюць вярнуцца толькі на ўзровень заробкаў, якія падцягнулі ў нас у канцы 2010 года, калі праходзілі чарговыя прэзідэнцкія выбары.

Сёлета намінальная налічаная зарплата ў нашай краіне вясной у сакавіку крыху перавысіла рубеж 3 млн. рублёў і гэта толькі "гразнымі", без выплат падаткаў. На рукі беларусы атрымоўвалі ў сярэднім ад 2 да 3 млн. рублёў (71,1 % ад усіх работнікаў), што было ніжэй сярэднямесячнага ўзроўню па Беларусі, дзе за кошт Салігорска, Жлобіна статыстыка паказвала быццам спрыяльную карціну і невялікі рост рэальных зарплат (бо адначасова не спыняюцца ў нас і рост цэн). Але ж не забудзем, што зараз беларускае кіраўніцтва пастаянна кажа, што рост зарплат трэба ўвязваць абавязкова з ростам прадукцыйнасці працы.

Такім чынам, летам і восенню сёлета неабходна павысіць гэту прадукцыйнасць працы мінімум на чвэрць. За кошт чаго? Любому разумнаму чалавеку зразумела, што гэта нерэальна, паколькі дзяржаўны прагназ развіцця прадугледжвае такі рост усяго на 5-5,5 %, а пакуль з пачатку года дасягнулі ўсяго на 2,9 %. Тым больш, што нягледзячы на паступовае павышэнне даходаў працоўных, пакупніцкая здольнасць насельніцтва знізілася на 1,2 % у параўнанні з мінулым годам. Памеры цяперашніх пенсій амаль 2,5 мільёнаў айчынных пенсіянераў, якія быццам павышаюцца, рэальна яны складаюць усяго 91,9 % іх вартасці рэальнай у 1-м квартале 2011 года, хоць і выраслі ў сярэднім да 1. 209, 8 млн. рублёў.

Існуючая мадэль беларускай эканомікі састарэла, яна слаба канкуруе нават з партнёрамі па Мытнаму саюзу, бо мы сталі значна адставаць па ўзроўні зарплат ад расіян і казахаў. Без структурнай перабудовы і рынкавых рэформ яна не зможа забяспечыць стабільныя паступальныя паказчыкі росту і рост дабрабыту працоўных. Праўда, існуе апасенне, што не нейкі час, пару месяцаў у абласцях адшукаюць сродкі, каб залагодзіць грашовымі ўліваннямі і каб выбаршчыкі прагаласавалі зноў правільна, падтрымалі зацверджаных у кабінетах "дастойных" кандыдатаў.

Мы жывём даўно так, што рэальная сітуацыя ў краіне ў эканоміцы, сацыяльнай сферы мала залежыць ад большасці людзей. Пакуль жа нават ва ўрадзе Беларусі прызнаюць, што выйсці на сярэднямесячную зарплату ў 4 млн. рублёў будзе крайне складана. Аднак па прывычцы звыкла не губляюць аптымізм і заяўляюць, што выканаюць пастаўленую задачу. Вось толькі інтуіцыя падказвае, што будзе далей, як раней: хацелі як лепей, а потым зноў апынуліся ля разбітага карыта…

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 05.07.12 | | | | Пятніца 06.07.12 | | | | Субота 07.07.12 | | | | Нядзеля 08.07.12 | | | | Пнд.09.07.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 83 | 65 | 44 | 64 | 83 | 70 | 43 | 65 | 84 | 69 | 39 | 64 | 80 | 62 | 38 | 57 | 69 | 70 | 50 |
| Ціск | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 4 | 3 | 4 | 5 | 4 | 5 | 4 | 5 | 1 |
| | В | В | В | В | Ю-В | Ю-В | Ю-В | В | Ю-В | Ю-В | Ю-В | В | Ю-В | Ю | Ю-В | Ю-В | Ю | Ю | Ю |
| Вільготнасць | | 04:38 | 21:49 | | | 04:39 | 21:48 | | | 04:40 | 21:47 | | | 04:41 | 21:47 | | 04:43 | 21:46 | |
| Вецер м/сек | | 22:20 | 06:55 | | | 22:41 | 08:17 | | | 23:00 | 09:36 | | | 23:16 | 10:52 | | 23:33 | 12:05 | |

## Дзень за днём

**Да канца года ў Беларусі пад чарговую 12-ю па ліку амністыю трапяць 7,6 тысяч чалавек, з іх трэць выпусцяць на волю, як і 400 падлеткаў, цяжарных і жанчын-маці. У нас не стануць, як заявіў А. Лукашэнка, перайменоўваць міліцыю ў паліцыю, будзе скарачэнне штатаў і павышэнне заробкаў яе супрацоўнікам. З-за ўраганных вятроў і шкоднікаў у краіне сёлета пацярпелі 26 тысяч гектараў лесу, адбылося ўжо 211 лясных пажараў. Для беларусаў не плануецца ўводзіць падаткі на багацце і бяздзетнасць, а таксама ўтылізацыйны збор на аўтамабілі да ўваходжання ў Сусветную гандлёвую арганізацыю.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Яшчэ на год прэзідэнт Барак Абама прадоўжыў санкцыі ў адносінах беларускіх чыноўнікаў, уведзеныя яшчэ ў 2006 годзе яго папярэднікам на пасадзе Джорджам Бушам.

**Украіна.** Прэзідэнт Віктар Януковіч заявіў, што хацеў бы памілаваць асуджаную на 7 гадоў экспрэм'ера Юлію Цімашэнка, але, паводле закона, пакуль не ў сілах гэта зрабіць.

**Венесуэла.** Хворы на рак 57-гадовы прэзідэнт Уга Чавес зарэгістрыраваўся кандыдатам главы дзяржавы, але адмовіўся ад дэбатаў з лідарам апазіцыі. Выбары прызначаны на 7 кастрычніка

**Швецыя.** Дзякуючы дэмакратызацыі правячага рэжыму М'янмы лідар апазіцыі Су Чжы праз 21 год атрымала сваю заслужаную Нобелеўскую прэмію і выехала на Захад.

**Расія.** Прэм'ер-міністр Д. Мядзведзеў заклікаў свайго калегу з Беларусі М. Мясніковіча падумаць пра пераход на адзіную валюту ў рамках Мытнага саюза трох краін.

**Туніс.** Суд пакараў экс-міністра МУС генерала Рафіка Касема 12 гадамі пазбаўлення волі за забойства летась удзельнікаў "рэвалюцыі 14 студзеня" у разгар масавых акцый.

**Швецыя.** Савет дырэктараў Нобелеўскага фонда рашыўся на змяншэнне на 20 % выплат самай прэстыжнай сусветнай прэміі сваім лаўрэатам да 8,1 мільёна крон (1,1 мільёна долараў).

**Таджыкістан.** З мэтай прыцягнення інвестыцый і турыстаў урад краіны ў аднабаковым парадку адмяніў візавы рэжым з дзяржавамі ЕС, ЗША і асобнымі краінамі Азіі.

**Літва.** Краіна адзначыла Дзень жалобы і надзеі памяці ахвяр сталінскага рэжыму, калі 300 тысяч літоўцаў зведалі жахі савецкіх турмаў, лагераў і ссылкі ў Сібір і на Поўнач СССР.

**Латвія.** Сейм краіны прагаласаваў за паступовае павышэнне з 2025 года пенсійнага ўзросту з цяперашніх 62 да 65 гадоў, рэформа пачнецца праз 2 гады, па некалькі месяцаў.

**Кітай.** Першай жанчынай-касманаўтам стала 33-гадовая маёр Лю Ян, яна далучылася да мужчын на борце касмічнага апарата "Шэньчжоу-9", да яе ў космасе пабылі 54 дамы.

**Саудаўская Аравія.** Пры лячэнні за мяжой ва ўзросце 78 гадоў памёр наследны прынц Абдэль Азіс аль-Сауд, ён раней кіраваў паліцыяй краіны, рэзка крытыкаваў Іран.

**Грузія.** Прэзідэнт М. Саакашвілі пацвердзіў на канферэнцыі ў Батумі, што грузінскія ВНУ не будуць болей выдаваць дыпломы сваім выпускнікам, калі яны не будуць ведаць англійскую мову.

**Канада.** Амерыканскі 33-гадовы артыст цырка Нік Валленда ўпершыню ў свеце за 25 мінут прайшоў па канаце праз Ніягарскі вадапад. Даўжыня якога складае 550 метраў.

**Польшча.** Кампанія Platiqe Imaqe стварыла першую ў свеце стэрэаскапічную копію ў фармаце 3D карціны "Грунвальдская бітва", напісаную Янам Матэйка ў 1878 годзе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Расійскі пасол А. Сурыкаў прапанаваў Беларусі падумаць аб увядзенні адзінай валюты, бо другі крызіс яна не перажыве, намякнуў, што А. Лукашэнка страціць уладу.

**Астравец.** Згодна з новым генеральным кантрактам з Расіяй, тэрміны будаўніцтва тут АЭС зацягваюцца, першы з двух энергаблокаў будзе запушчаны толькі ў 2018 годзе.

**Мінск.** Нягледзячы на гібель самалёта Су-25 у Навагрудскім раёне, як паведаміў міністр абароны Беларусі Ю. Жадобін, адмены лётнай часткі ваеннага параду 3 ліпеня не будзе.

**Ліда.** На пахаванні загінуўшага пілота Су-25 людзі ў цывільным затрымалі некалькі журналістаў і выдалілі з інфармацыйных носьбітаў увесь зняты відэа і фотаматэрыял.

**Баранавічы.** Ноччу ў вёсцы Новая Мыш п'яны малады кіроўца збіў насмерць двух пешаходаў, мужчыну і жанчыну, якія прыехалі на 40-ю гадавіну школьнага выпуска.

**Мінск.** У Нацыянальны аэрапорт Мінск-2 пасля пераафарбоўкі ў Турцыі прыбыў новы прэзідэнцкі дальнемагістральны самалёт віп-класа Боінг-767, на ім лятаў Туркменбашы.

**Нарач.** У прэзідэнцкім санаторыі "Прыазёрны" ўрачыста адкрылі новы лячэбны корпус коштам будоўлі 60 мільярдаў рублёў з 20-метровым басейнам, 3 лазнямі і спа-цэнтрам.

**Лунінец.** За спробу незаконнага правозу праз украінскую граніцу 120 літра саляркі Брэсцкая мытня канфіскавала аўтамабіль "Сітраен Джампер" у 34-гадовага жыхара райцэнтра.

**Бабруйск.** У разрад "злосных парушальнікаў рэжыму" ў мясцовай калоніі № 2 перавялі праваабаронцу, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека А. Бяляцкага.

**Кобрын.** Да сур'ёзных пашкоджанняў тэхнікі і затрымкі руху паяздоў на 3 гадзіны прывяло сутыкненне цягніка з грузавіком на галоўным пуці ўчастка Брэст – Баранавічы.

**Мінск.** У другі раз у сваёй гісторыі мужчынская зборная Беларусі па гандболе праз 17 гадоў пад кіраўніцтвам Юрыя Шаўцова прабілася зноў на фінал чэмпіянату свету ў Іспаніі

**Гомель.** Вецер ураганнай сілы вечарам моцна пашкодзіў і разбурыў цэнтральны сквер горада, стыхія паваліла 10 буйных дрэў, на шчасце, ніхто з гараджан не пацярпеў.

**Мінск.** Сваёй пасады пазбавіўся намеснік міністра адукацыі Беларусі Казімір Фарына, які лічыў, што ў краіне "няма праблем з беларускай мовай", аднак яго дачка жыве ў Галандыі.

**Брэст.** Гаспадыня аднаго з лепшых у Беларусі піўных бараў "Паб-хаўс" ад адчаю разграміла свой будынак, калі суд вырашыў перадаць яго новай фірме-гаспадару.

**Мінск.** У выніку аварыі раніцай на паветранай лініі ЛЭП 110 кВ былі абясточаны на некалькі гадзін тры раёны сталіцы і МАЗ, спыніліся тралейбусы шэрагу маршрутаў.

# Банкаўскія камісіі за крэдыт адменяць у 2013 годзе




■ **Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН**

29 чэрвеня савет рэспублікі ўхваліў праект закона аб унясенні паправак у Банкаўскі кодэкс.

Прадстаўляла законапраект членам савета Рэспублікі старшыня праўлення Нацыянальнага банка, член верхняй палаты парламента Надзея Ермакова.

Паводле яе слоў, законапраект скіраваны на ўдасканаленне норм Банкаўскага кодэкса з улікам міжнародных стандартаў у сферы банкаўскага заканадаўства, актаў прэзідэнта і правапрымяняльнай практыкі. На аснове рэкамендацый Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка прадугледжваецца ўзмацненне аперацыйнай і фінансавай незалежнасці Нацыянальнага банка Беларусі, удасканальваюцца працэдуры ў сферы нагляду за ажыццяўленнем банкаўскай дзейнасці, а таксама на кансалідаванай аснове за дзейнасць банкаўскіх груп і банкаўскіх холдынгаў.

За Нацбанкам замацоўваецца новая функцыя — ажыццяўленне маніторынгу фінансавай стабільнасці, аб'ектамі якога будуць з'яўляцца не толькі банкі і нябанкаўскія крэдытна-фінансавыя арганізацыі, але і фінансавыя пасрэднікі, фінансавыя рынкі і плацежная сістэма ў цэлым.

У мэтах далейшай лібералізацыі эканамічных адносін законапраектам прадугледжваецца спрашчэнне працэдур дзяржаўнай рэгістрацыі і ліцэнзавання банкаў. Пры гэтым прадугледжваецца, што банкі могуць ствараецца выключна ў форме акцыянерных таварыстваў, а таксама ўстанаўліваюцца жорсткія патрабаванні да карпаратыўнага кіравання і кіравання рызыкамі, ажыццяўлення ўнутранага кантролю і аўдыту.

Апрача таго, замацоўваецца вызначэнне паняцця «электронныя грошы» — гэта легалізуе абарот такіх сродкаў плацяжу, а таксама адмяняюцца камісійныя і іншыя плацяжы за карыстанне крэдытам (апрача працэнтаў за карыстанне крэдытам), што цягне празрыстасць і прадказальнасць адносін банка з кліентамі.

Упершыню на заканадаўчым узроўні замацоўваецца вызначэнне тэрміну «стаўка рэфінансавання». Пад ім падразумяваецца стаўка Нацбанка, якая з'яўляецца базавым інструментам рэгулявання ўзроўню працэнтных ставак на грашовым рынку і служыць асновай для ўстанаўлення працэнтных ставак па аперацыях давання ліквіднасці банкам.

Дакумент таксама прадугледжвае заканадаўчае замацаванне паняцця «матываванае меркаванне» пры ажыццяўленні Нацбанкам банкаўскага нагляду. Пад ім падразумяваецца фармалізаванае, лагічна абгрунтаванае прафесійнае меркаванне работнікаў Нацбанка, якое можа з'яўляцца падставай для прыняцця рашэнняў па ажыццяўленні банкаўскага нагляду праўленнем Нацбанка і яго службовымі асобамі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Верхнядзвінск.** Мясцовы масласырзавод пачаў пастаўкі сухой сывараткі ў Кітай, на чарзе тут выпуск мяккіх сыроў тыпу мацарэлла. Перад гэтым тыт былі асвоены 6 відаў сыроў з дабаўкамі.

**Віцебск.** Новым начальнікам абласной міліцыі прызначылі сталічнага дзеяча ГУУС Ігара Яўсеева

**Глыбокае.** Замест закрытай аварыйнай бібліятэкі ў вёсцы Прыпернае вырашылі ўлады да канца лета адкрыць у суседніх за 3 кіламетры Шуневічах клуб-бібліятэку побач з магазінам.

**Чашнікі.** На адным з вадаёмаў раёна арнітолагі знайшлі 100 няшчасных птушанят бакланаў, у птушак вандалы варварскім спосабам адрэзалі дзюбы. Між іншым, адстрэл бакланаў дазволены ў Рэспубліцы Беларусь.

**Докшыцы.** Пасля аснашчэння фермы "Атрубок" СХП "Гняздзілава-Агра" сучасным даільным залам на ёй сталі атрымоўваць малако выключна сорту "экстра", выраслі надоі.

**Сянно.** Прадпрымальнік Аляксандр Озер у родным Багушэўску адкрыў утульны і прыгожы гандлёвы цэнтр "Багушэўскі фальварак" з двума магазінамі і кафетэрыем.

**Паставы.** У ваколіцах вёскі Жылінскія ля возера Лучай прайшоў чэмпіянат па касьбе траў з прызавым фондам 4 мільёна рублёў, 15 касцоў скасілі за 5 гадзін паўгектара лугоў.

**Лепель.** Прымусова дастаўлены ў часць з камеры сталічнага СІЗА актывіст "Маладога фронту" Міхаіл Мускі адмовіўся прымаць прысягу ў знак пратэсту на незаконны прызыў.

**Лёзна.** У выніку ўраганнага ветру вечарам у райцэнтры ўпала вялікае дрэва і праламіла поўнасцю страху драўлянага жылога дома. На шчасце, ніхто з яго жыльцоў не пацярпеў.

**Полацк.** Быццам знойдзеныя ля Сафійскага сабора падземныя хады на справе з'яўляюцца толькі часткай, створанай у 18 стагоддзі дрэнажнай сістэмы для адводу вод ад храма.

**Верхнядзвінск.** Пры спробе разабраць на будаўнічыя матэрыялы закінуты пасля пажару дом на адной з вуліц райцэнтра загінуў 49-гадовы непрацуючы мужчына- бомж.

**Віцебск.** На адкрыцці 12 ліпеня "Славянскага базару" згадзілася выступіць шведская спявачка Ларын, пераможца сёлетняга конкурса песні "Еўрабачанне-2012" у Баку.

**Лепель.** Суд пакараў 5 мільёнамі рублёў штрафу жыхара райцэнтра, які незаконна здабыў на рацэ Эсса 14 шчупакоў, 5 язёў вагой 15,7 кілаграмы. Ён выплаціў яшчэ 1,8 мільёна рублёў урону прыродзе.

**Глыбокае.** На сустрэчы ў райцэнтры старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Чаргінец паабяцаў сёлета падараваць райбібліятэцы яшчэ больш 100 кніг беларускіх аўтараў.

**Докшыцы.** У Бярэзінскім біясферным запаведніку прайшла маштабная планавая праверка і па паступіўшых скаргах аб быццам дрэнным там абыходжанні з жывёлінамі ў заапарку.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Ул. Скрабатун

## Юбілей, пра які ўсе забыліся

# Роўна 115 гадоў таму ў Глыбокае на станцыю Беразвеч прыбыў першы цягнік

**Дзялянка новай чыгункі ад Свянцянаў да Паставаў даўжынёй 66 вёрстаў была адкрытая для руху 11 лістапада 1895 г., а 1 ліпеня 1897 г. пачала дзейнічаць другая чарга, да станцыі Беразвеч, г. зн. да Глыбокага, працягам 53 вярсты. Шырыня каляі новай лініі склала 0,351 сажня (75 сантыметраў), а на чыгунках Расейскай імперыі яна была роўная 152,4 см. Хуткасць руху дасягала 25—30 вёрстаў у гадзіну, пасажырскія вагоны 2-га класа мелі мяккія спружынныя сядзенні са спінкамі, а для жадаючых меліся спальныя аддзяленні. Да сярэдзіны 1890-х гг. усе беларускія чыгункі сталі дзяржаўнымі. За кошт скарбу вялося ў далейшым і будаўніцтва новых. Зрэшты, быў і адзін вынятак: вузкакалейная чыгунка Свянцяны-Беразвеч, была пабудаваная прыватнай кампаніяй — Першым таварыствам пад'язных чыгуначных шляхоў.**




**У свой час некаторыя з нашых глыбоцкіх краязнаўцаў агітавалі аўтара гэтых радкоў ісці ў Беразвецкі бор шукаць «насып былой чыгункі» Свянцяны-Беразвеч.**

**– Навошта шукаць нейкі насып у Барку ці ў Беразвеччы,– пераконваў іх,– калі ёсць мапы, дзе станцыя Беразвеч адзначаная на месцы сённяшняй станцыі Глыбокае. Яго там няма і быць не можа! Але верыць ніхто не хацеў...**

**Вось гэтая вынятка з польскай мапы за 1920-я гг, яскрава сведчыць, што на тым часе палякі яшчэ не паспелі перайменаваць станцыю Беразвеч у станцыю Глыбокае. І станцыя Беразвеч (st. Berezwecz) адзначаная там, дзе і сёння знаходзіцца станцыя Глыбокае, асобна адзначана і паселішча Беразвеч(ча).**

Чыгунка стала сапраўднай рэвалюцыяй на транспарце. За гадзіну цягнік праходзіў такі шлях, які гужавы транспарт пераадольваў за суткі. У той жа час перавозка грузаў чыгункай каштавала ад пяці да дваццаці разоў танней, чым па-старому, на "аўсяным маторы". На Глыбоччыну разам з чыгункай прыйшла індустрыялізацыя. З'явіўся і тэлефон: сучасны сродак сувязі звязаў паміж сабой станцыі новай вузкакалейкі.

Насамрэч, яе паравозы цягнулі за сабой не толькі вагоны, але і паслужылі лакаматывам для ўсёй эканомікі краю. Б.Ялавецкі не памыліўся, калі абраў родныя мясціны для спробы сілаў новай чыгуначнай кампаніі.




**Помнік Баляславу Ялавецкаму ў Лынтупах.**

Зразумела, прапанаваны ўнізе здымак – калаж. Гэты цягнік, насамрэч, стаіць у Вільні каля чыгуначнага вакзала. Але такі выгляд з паравозам, гіпатэтычна, глыбоцкі вакзал мог бы мець і да юбілею – 115-годдзя адкрыцця руху па нашай чыгунцы.

Мы штораз, цягам пяці гадоў, напярэдадні чарговага юбілею ізноў звяртаемся да тэмы адкрыцця руху па чыгунцы Свянцяны-Беразвеч. Гэта ўжо чацвёрты матэрыял на згаданую тэму. Аднак нашыя ўлады ніколі не бралі тое пад увагу, не ўлічвалі парады краязнаўцаў. Затое пастаўскія ўлады прыслухаліся да меркавання тамтэйшых краязнаўцаў і ўсталявалі ў Лынтупах помнік будаўніку чыгункі Баляславу Ялавецкаму.

Што тое Глыбокае было б сёння без чыгункі!!! Ды й ці было б Глыбокае наогул райцэнтрам! Яскравы прыклад таму – г. Дзісна, нашая колішняя «сталіца». Зачахла! Там няма і двух тысячаў насельніцтва. Бо чыгунка прайшла праз Глыбокае! Палякі перанеслі «сталіцу» павету з Дзісны ў Глыбокае, і яно набыло статус горада. А ўжо пры саветах пабудавалі тут: кансервавы завод, мясакамбінат, піўзавод, МКК, камбікармовы завод, мікрараён МКК і шмат чаго іншага. Не было б чыгункі і не было б усяго гэтага!



Болеславъ Антоновичъ Яловецкій

**ЯЛАВЕЦКІ**
**Баляслаў-Лаўрэнцій Антонавіч**
**(1846 – 1918)**

**Расійскі ваенны інжынер, інжынер-пуцеец, рэфарматар, грамадскі дзеяч, мецэнат, міністр шляхоў зносін. Інжынер, які пабудаваў чыгунку Свянцяны-Беразвеч.**



■ Сяржук Васільеў,
*г. Мёры.*

# Нашы продкі – крывічы

Крывічы - адны з продкаў беларусаў. Крывічы жылі ў 9-12 стагоддзях на поўначы Беларусі, дзе зараз жывём і мы з Вамі. Хто такія крывічы і адкуль яны пайшлі? Да цяперашняга часу існуе думка, што крывічы – гэта вялікае славянскае племя, альбо саюз плямёнаў, якія жылі ў 9-12 ст.ст. у вярхоўях З.Дзвіны, Дняпра і Волгі. Але ці так гэта? Найноўшыя дадзеныя археалогіі паказваюць, што культура доўгіх курганоў, якая лічыцца раннекрывіцкай, з'яўляецца прамой пераемніцай банцараўска-тушомлінскай культуры. Гэта культура лічыцца бясспрэчна балцкай. Гэта азначае, што крывічы былі балтамі, а не славянамі, асіміляваўшымі мясцовых балтаў і ўспрыняўшымі рысы іх культуры. Выходзіць, ніякага змяшэння славян з балтамі ў нашай мясцовасці не было. Тым больш археалагічна крывічы нічым не адрозніваюцца ад іхных суседзяў латгалаў, продкаў сучасных латышоў. Не адрозніваліся яны ад іх і антрапалагічна. Этнавызначальнай прыкметай крывічоў лічацца скроневыя кольцы – жаночыя ўпрыгожанні. Але ў крывіцкіх пахаваннях знаходзяцца і латгальскія жаночыя ўпрыгожанні – вайнагі. Потым і амаль – усе рэкі і азёры ў арэале крывічоў маюць балцкія назвы, радзей фінна-вугорскія, і ні адзін вадаём не называецца па-славянску. Яўных антрапалагічных слядоў пранікнення славян на тэррыторыю Падзвіння няма. Такім чынам, засведчаная большасцю антрапологаў значнае падабенства балцкіх плямёнаў (асабліва латгалаў) і полацкіх крывічоў дазваляе сцвярджаць аб славянізацыі крывічоў шляхам замены імі сваёй балцкай мовы на славянскую. У крывіцкіх курганах знаходзяць таксама лентачныя вянкі (вайнагі), шэйныя грыўны, змеягаловыя бранзалеты (балцкі змяіны культ), спіральныя пярсцёнкі і падкованападобныя фібулы, вызначаючыя спецыфіку балцкага строю. Да таго ж гэтыя рэчы знаходзяць звычайна далека ад гарадоў і не на ганддёвых шляхах, а ў глухіх месцах, што сведчыць аб іх мясцовым паходжанні. Асабліва багатыя балцкімі рэчамі пахаванні Полацкай зямлі. Аналіз 200 курганных комплексаў з тэрыторыі Полаччыны паказаў, што толькі чвэрць з іх мела скроневыя кольцы, а ў іншых пахаваннях скроневых кольцаў няма ўвогуле, аднак шмат металічных вырабаў выключна балцкага паходжання. Да таго ж, магчыма, і скроневыя кольцы маюць неславянскае паходжанне. Мужчынскі строй крывічоў таксама мае вялікае падабенства са строямі суседніх балцкіх плямёнаў. Гэта разнастайныя падкованападобныя фібулы, ліраподобныя спражкі, пярсцёнкі, бранзалеты.

З усяго гэтага выцякае, што крывічы з'яўляюцца аўтахтонамі нашай зямлі, нашчадкамі банцараўска-тушомлінскай культуры, а таксама, у перспектыве і днепрадзвінскай культуры, безумоўна, балцкай. Такім чынам, нашы продкі крывічы, а значыць і мы з Вамі, шаноўны чытач, з'яўляемся спрадвечнымі балтамі, блізкімі сваякамі сённяшніх літоўцаў і латышоў, толькі ў адрозненне ад іх, нашы продкі праз праваслаўную рэлігію ўспрынялі славянскую мову, хаця таксама з вялікім балцкім уплывам. І гэта мова цяпер называецца беларускай.



■ Таццяна Смоткіна

# Ці патрэбен нам футбол?

**Футбольная тэма зараз – актуальная, бо шматлікія аматары футбола сочаць за матчамі Чэмпіянату Еўропы па футболе, які праходзіць ва Украіне і Польшчы, хто ўвачавідкі, а хто па тэлебачанні. Шмат грошай і эмоцый затрачваецца на такія мерапрыемствы. Па-рознаму можна ацэньваць такія выдаткі. Але шмат палітыкаў схіляецца да таго, што добрыя спартовыя вынікі, якія паказвае краіна, усё ж такі ўмацоўвае аўтарытэт краіны на палітычнай арэне. Так гэта альбо не, вырашаць кожнаму.**

А якая ўвага надаецца футболу ў нас на Глыбоччыне? Пра гэта нам вырашыў распавесці трэнер па футболе пры фізкультурна-аздараўленчым Цэнтры Уладзімір Вячаслававіч Андрэеў.

***Уладзімір Вячаслававіч, распавядзіце, калі ласка, якое месца займае футбол у Вашым жыцці.***

Цікаўлюся футболам з малых гадоў, з'яўляюся выхаванцам Віцебскай спартыўнай школы "Дзвіна". Атрымаў адукацыю арганізатара-настаўніка фізічнай культуры. З 1979 па 1982 год працаваў настаўнікам фізкультуры ў Глыбоцкай сярэдняй школе №1. З 1992 года перайшоў на трэнерскую працу ў Цэнтр пазашкольнай працы, узяў хлопцаў 1988 г.н. і 7 год працаваў з імі. Так утварылася каманда "Юнацтва", "залатым годам"для якіх аказаўся 2000 г. Каманда перамагала на раённых і розных лакальных спаборніцтвах кшталту "Скураны мяч". У тым жа 2000 годзе стала чэмпіёнам на спаборніцтвах у Навапалацку, у Віцебску на турніры заваявала 3-е месца сярод 8 каманд. На міжнародным турніры з удзелам 12 каманд з Беларусі і Расіі – 1 месца, зноў жа ў 2000 годзе. У фінальным паядынку з футбалістамі Вялікіх Лукаў мы атрымалі яскравую перамогу, у гэтай камандзе ў свой час трэніраваўся такі выдатны футбаліст як Дзмітрый Аленічаў, які потым гуляў за маскоўскі "Спартак", а затым у складзе партугальскага "Порту" стаў уладальнікам Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў.

І раптам такая каманда з выдатнымі вынікамі аказалася нікому не патрэбнай. Яна засталася без фінансавай і нават псіхалагічнай падтрымкі. З розных краін былога Савецкага саюза прыходзілі запрашэнні для каманды паўдзельнічаць у міжнародных і рэспубліканскіх турнірах, але ніхто нас не падтрымліваў у гэтай справе, таму мы былі вымушаныя адмаўляцца ад перспектыўных прапаноў. На жаль, знайшліся і людзі, якія нават перашкаджалі працаваць у поўную сілу гэтай камандзе. Але добра, што гэтых людзей было не так і шмат.



Уладзімір Вячаслававіч Андрэеў.




Але дзяцей не кінуў, давёў іх да 10 класа. З тых выхаванцаў гуляюць у футбольнай камандзе "Азярцы" і з'яўляюцца аднымі з вядучых футбалістаў: Уладзімір Сандзюк, Віталь Аліхімоўскі, Міхаіл Крывёнак, Вячаслаў Храмы. Шмат хто раз'ехаўся, у Мінск, нават у Штаты.

Гэтую каманду аматары футбола памятаюць нават і сёння. Каманда, якая імкнулася і магла паказаць годны вынік на юнацкім чэмпіянаце Рэспублікі Беларусь "Крыштальны мяч".

***Ці было крыўдна, што такая каманда аказалася па-за ўвагай?***

Калі прыкладваеш столькі высілкаў і намаганняў, становіцца крыўдна, што твая праца нікому не патрэбная. Таму я пайшоў пасля гэтага працаваць у звычайную школу настаўнікам фізкультуры, дзе працаваў да 2008 года.

***Але ж, Вы зноў працуеце трэнерам па футболе…***

У 2011 годзе зноў стала надавацца вялікая ўвага футболу, асабліва пасля таго, як футбольная каманда "Азярцоў" перастала радаваць сваіх балельшчыкаў сваімі поспехамі. Аддзел па фізічнай культуры, спорце і турызму вырашыў надаць асаблівую ўвагу менавіта выхаванню дзяцей малодшага ўзросту. Вось мне і прапанаваў начальнік аддзела Міхаіл Міхайлавіч Арэхаў узяць на сябе гэтую адказнасць. Я, канешне, не адмовіўся, бо футбол – гэта мой асяродак. Зараз я займаюся з хлопцамі 2002-2003 года нараджэння. З маімі выхаванцамі ўгэтым годзе ўжо заваявалі 1 месца ў спаборніцтвах па месцы жыхарства "Скураны мяч".

***А што Вы можаце распавесці пра футбольныя секцыі на Глыбоччыне, каб зацікавіць юных аматараў футбола?***

У Глыбокім працуюць 2 секцыі па футболе. На базе фізкультурна-аздараўленчага комплексу, дзе трэнерам з'яўляюся я, на базе спартыўнай школы – трэнер Дзяніс Аляксандравіч Какорка, вельмі таленавіты і перспектыўны малады трэнер.

Заняткі платныя. Абанемент на месяц каштуе 24 000 рублёў. Аплочваць патрэбна ў канцы месяцы.

Усяго ў цэнтры працуюць секцыі рытмічнай гімнастыкі, цяжкай атлетыкі, грэка-рымскай барацьбы, група па агульнай фізічнай падрыхтоўцы. Секцыя па футболе – самая вялікаколькасная, 30 чалавек. Гэта радуе, што шмат дзяцей цікавіцца футболам.

Больш набіраць не вельмі б хацелася ў гэтую групу, бо кожны "навічок" усё ж такі адцягвае шмат увагі, менш часу застаецца на іншых. Яго трэба навучыць гуляць у камандзе, а гэта вымагае вялікіх высілкаў, асабліва на першапачатковым этапе. А вось, калі назбіраецца новая група, вазьмуся за яе трэніроўку.

Існуе кожны год летнік для выхаванцаў-футбалістаў, дзе дзеці трэніруюцца, занятыя справай, праходзяць забаўляльныя мерапрыемствы, дзеці забяспечаны якасным харчаваннем.

***Вашы пажаданні і планы надалей?***

Па-першае, хачу падзякаваць бацькам, якія даверылі мне сваіх дзяцей, такім чынам аддалі мне павагу як трэнеру. Будзем працаваць і надзяляць вялікую ўвагу вучэбна-трэніровачнаму працэсу, зараз уключаемся ў абласныя спаборніцтвы ў лакальным плане – гэта паездкі на таварыскія спаборніцтвы, турніры.

# Лавіць рыбу ў зоне праходжання ліній электраперадачы – небяспечна для жыцця і здароўя!

■ **А.С. Крывёнак,**
*дзяржаўны інспектар на энергетычнаму нагляду.*

**21 чэрвеня 2009 года** ў Мазырскім раёне Гомельскай вобласці трое маладых хлопцаў адправіліся на рыбалку на вадаём ачышчальных збудаванняў прамысловай зоны Мазыр -ІІ. Пры лоўлі рыбы адзін з іх, не звярнуўшы ўвагу, што знаходзіцца пад паветранай лініяй электраперадачы напругай 110 кВ., неспадзявана дакрануўся вудзільнам адной з фаз ВЛ. У выніку чаго адбылося перакрыцце і ўсе трое атрымалі апёкі рознай ступені, так як знаходзіліся паблізу адзін ад аднаго.

**5 ліпеня 2009 года** ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці з жыхаром г. Магілёва 1981 г.нр. адбыўся няшчасны выпадак са смяротным зыходам падчас лоўлі рыбы на штучным вадаёме групай рыбакоў у складзе чатырох чалавек. Пры чарговым закідзе тэлескапічнай вуды, адбыўся кароткачасовы дотык верхняй часткі вуды провада паветранай лініі электраперадачы напругай 10 кВ. У выніку чаго пацярпелы патрапіў пад дзеянне электрычнага току і быў смяротна траўміраваны.

**29 ліпеня 2009 года** недалёка ад вёскі Абухова Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці студэнт 1992 г.нр. лавіў рыбу на штучным вадаёме. Пры спробе закіду адбыўся дотык вудай адной з фаз паветранай лініі электраперадачы 10 кВ. Сямнаццацігадовы хлопец атрымаў апёкі ІІІ ступені.

**2 верасня 2009 года** на пяшчаным кар'еры паблізу н.п. Туалін Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці адбыўся няшчасны выпадак з жыхаром г. Магілёва 1973 г.нр. Пры выцягванні тэлескапічнай вуды з вады адбылося набліжэнне на недапушчальную адлегласць верхняй часткі вуды да провада паветранай лініі электраперадачы 110 кВ. Пацярпелы ад дзеяння электрычнага току атрымаў апёкі ІІІ-ІV ступені.

**09.05.2012 года** ў Івацэвічскім раёне Брэсцкай вобласці з жыхаром г. Пінска 1974 года нараджэння адбыўся няшчасны выпадак са смяротным зыходам. Раскладваючы рыбалоўныя снасці (вугляпластыкавую тэлескапічную вуду даўжынёй 6 м) паблізку ВЛ 10 кВ, пацярпелы дакрануўся вудай да правадоў і быў смяротна траўміраваны электрычным токам.

**14.06.2012 года** ў Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці з жыхаром г.Паставы 1975 года нараджэння адбыўся няшчасны выпадак паблізу вёскі Юнькі. Пацярпелы рыбачыў на сажалцы на адлегласці 4 м ад паветранай лініі электраперадачы, спрабуючы закінуць вуду, захляснуў лескай крайні провад ВЛ 110 кВ. У выніку ад узнікнення электрычнай дугі пацярпелы атрымаў апёк 40% цела.

**ЭНЕРГАНАГЛЯД ПАПЯРЭДЖВАЕ:**

Электраўстаноўкі небяспечныя – паражэнне чалавека электратокам можа адбыцца без непасрэднага дакранання да токавядучых частак, часам досыць проста наблізіцца да іх на недапушчальную адлегласць. Усякага роду дзеянні ў непасрэднай блізкасці да электраўстановак могуць прывесці да трагічных наступстваў.

Не варта падвяргаць смяротнай небяспецы паражэння электрычным токам сваё жыццё і жыццё іншых людзей.



**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Нашы госці вельмі здзівіліся сумай штрафу

Прырода Рэспублікі Беларусь вельмі разнастайная. Шмат лясоў, азёр, рэк, балот, але як мы ставімся да яе захавання? Настае час паспявання ягад і пачынаецца масавы іх збор «камбайнамі». Шматлікія грамадзяне, парушаючы закон, ідуць у лес, каб зарабіць грошай, але ўсё калісьці скончваецца, пры затрыманні парушальнікаў супрацоўнікамі інспекцыі ці лясной аховы, іх чакае велізарны штраф.

Таму, Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае ўсім грамадзянам пра тое, што збор ягад усіх відаў з дапамогай «камбайна» ці грабянца забаронены. Заканадаўствам усталявана адміністрацыйная адказнасць за збор ягад з дапамогай грабянцоў, ч.2 арт. 15.26 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні» прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненай прыродзе шкоды, за 1 кг. ягад спаганяецца ўрон у памеры 2,2 базавых велічыні (220 000 руб.) Калі ж шкода, прычыненая прыродзе, складзе больш 40 базавых велічынь, то ў адносінах парушальніка будзе ўзбуджаная крымінальная справа.

Пасля некалькіх разоў збору ягад пры дапамозе грабянца, ягаднікі перастаюць пладаносіць, у шматлікіх месцах можна назіраць прыгожыя кусты чарніцы, але ягад на іх няма, гэта вынік неадназаразовага ўжывання «камбайнаў».

Паглядзіце, што пакідаюць пасля сябе грамадзяне ў лясах, кучы смецця, пластыкавых бутэлек, слоікаў, няўжо ў сябе дома так смецяць. Глыбоцкая міжрайінспекцыя будзе ўжываць да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства самыя строгія меры адказнасці.

28 чэрвеня 2012 года каля 20 гадзін вечара рэйдавая група Глыбоцкай міжрайінспекцыі ажыццяўляла планавы рэйд, калі паступіла паведамленне пра тое, што на возеры Мыльчына Глыбоцкага раёна ўсталяваны браканьерскія сеткі. Толькі інспектары прыбылі на вадаём, як і ўладальнік сетак з'явіўся, ён спакойна зняў сеткі з добрым уловам і збіраўся паехаць дахаты, але ўсе яго планы парушылі інспектары, якія затрымалі браканьера. Жыхар г.п. Падсвілле грамадзянін Н. вельмі здзівіўся з'яўленню інспектараў. Пакаранне за парушэнне будзе вельмі прыстойным - больш 2 млн. рублёў.

У гэты ж вечар рэйдавая група інспекцыі прадоўжыла працу, але ўжо на тэрыторыі Пастаўскага раёна, дзе каля 24 гадзін на возеры Новікаўскае паблізу в. Казлоўшчына затрымала двух жыхароў г. Наваполацка К. і Н.. Сябры прыехалі ў раён будаваць ферму, але жыць на беразе возера і не паставіць сеткі, неяк гэта не правільна будзе! – вырашылі яны, тым больш, што возера знаходзіцца ў баку ад дарог. Але якое было здзіўленне сяброў, калі выставіўшы сеткі, яны прыплылі да берага, іх ужо чакалі інспектары. Нашы госці і слова не маглі вымавіць ад здзіўлення, а яшчэ больш здзівіліся, пазнаўшы суму штрафу за незаконную здабычу рыбы.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-2-86-70 ці мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.



**А.К. Лысёнак,**
*старшыня Праўлення МЭОО «Прырода і мы».*

# Ці далучыцца Глыбокае да «Пакта мэраў»?



27-28 чэрвеня 2012 года ў г. Полацку прайшла міжнародная канферэнцыя "Ад энергаэфектыўнага дома – да энергаэфектыўнага горада" – абмен досведам і пашырэнне супрацоўніцтва паміж Полацкам, гарадамі Беларусі і рэгіёна Еўрапейскага інструмента добрасуседства і партнёрства ў галіне ўстойлівага энергетычнага планавання і энергазберажэння.

Канферэнцыя прайшла ў рамках праекта ЕС "SURE: устойлівае развіццё энергетыкі ў гарадах рэгіёна Еўрапейскага інструмента добрасуседства і партнёрства –на шляху да "Пакта мэраў". Праект фінансуецца Еўрапейскім Саюзам у рамках праграмы CIUDAD.

У выніку праекта SURE гарады Полацк (Беларусь), Сале (Марока), Мурсія (Іспанія), Фрыдрыхсхафен (Германія) далучаюцца да мэтаў ЕС па змяншэнні выкідаў CO2, павелічэнні энергаэфектыўнасці на 20% і павышэнні долі выкарыстання аднаўляемых крыніцаў энергіі на 20% да 2020 г.

У канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі гарадскіх уладаў з Беларусі, Германіі, Арменіі, Азербайджана, Грузіі і Малдовы, Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі, праекта Еўрапейскай камісіі "Пагадненне мэраў – Усход", Асацыяцыі энергаэфектыўных гарадоў Украіны, установаў і грамадскіх арганізацый Беларусі.

У ходзе канферэнцыі падведзены вынікі малюнкаў па энергазберажэнні сярод сямей г. Полацка, школ. Прэміі ад 500 да 1000 €.

Увечары на плошчы адбыўся канцэрт школ г. Полацка пад дэвізам "20+20+20 – выратуем нашу Планету".

Хацелася б, каб і г. Глыбокае падключыўся да "Пакта мэраў".

# У Беларусі зарэгістравана больш за 13,5 тыс. выпадкаў ВІЧ-інфекцыі

**Па стане на пачатак чэрвеня ў Беларусі зарэгістравана больш за 13,5 тыс. выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.**

Як паведамляецца на афіцыйным сайце Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, паказчык распаўсюджанасці ВІЧ-інфекцыі склаў 112,3 на 100 тысяч насельніцтва. За пяць месяцаў у Беларусі выяўлена 548 ВІЧ-інфікаваных. Для параўнання, за пяць месяцаў мінулага года — 463. Паказчык захворвання ВІЧ-інфекцыяй сёлета склаў 5,8 на 100 тысяч насельніцтва.

Больш за ўсё выпадкаў ВІЧ-інфекцыі — больш як 6,6 тыс. — зарэгістравана ў Гомельскай вобласці. Затым ідуць Мінская вобласць — 1 тыс. 856 і Мінск — 1 тыс. 944 выпадкі. Менш за ўсё выпадкаў ВІЧ-інфекцыі адзначана ў Віцебскай (716) і Гродзенскай (556) абласцях.

Пераважная колькасць ВІЧ-інфікаваных — гэта людзі ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў. Удзельная вага гэтай узроставай групы ў агульнай структуры ВІЧ-інфікаваных — 60,3%. Удзельная вага асоб ва ўзроставай групе 15—19 гадоў у агульнай структуры ВІЧ-інфікаваных за пяць месяцаў 2012 года склала 1,46%.

За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі (з 1987 года) 46,1% інфікаваных заразіліся вірусам пры ўнутрывенным увядзенні наркатычных рэчываў, 51,4% — палавым шляхам. За апошнія пяць месяцаў доля палавога шляху перадачы склала 77,4%, пры ўнутрывенным увядзенні наркотыкаў заразіўся кожны пяты ВІЧ-інфікаваны.

Удзельная вага мужчын сярод ВІЧ-інфікаваных складае 60,5%, жанчын — 39,5%. За апошнія пяць месяцаў удзельная вага мужчын ад агульнага ліку ВІЧ-інфікаваных склала 53,6%, жанчын — 46,4%.

За ўвесь перыяд распаўсюджання інфекцыі ад ВІЧ-інфікаваных маці нарадзілася 2 тыс. 72 дзіцяці, у тым ліку за пяць месяцаў гэтага года — 78. Дыягназ «ВІЧ-інфекцыя» пацверджаны 202 дзецям, народжаным ад ВІЧ-інфікаваных маці, у тым ліку чатыром — сёлета, з іх 10 памерлі. Сярод дзяцей ва ўзроставай групе да 14 гадоў зарэгістравана 217 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі.

Усяго ў Беларусі было зарэгістравана 3 тыс. 263 выпадкі СНІДу, у тым ліку за пяць месяцаў гэтага года такі дыягназ быў устаноўлены 238 пацыентам.

Сярод ВІЧ-інфікаваных пацыентаў памерла 2 тыс. 854 чалавекі, у тым ліку ў стадыі СНІДу — 1 тыс. 573. За пяць месяцаў 2012 года памерла 163 чалавекі, у тым ліку ў стадыі СНІДу — 116. Для параўнання, за пяць месяцаў 2011 года памерла 178 ВІЧ-інфікаваных, у тым ліку ў стадыі СНІДу — 115.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# У Беларусі павялічаць штраф за безбілетны праезд

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў на пасяджэнні 29 чэрвеня прынялі ў першым чытанні папраўкі ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія прадугледжваюць у тым ліку павелічэнне штрафу за безбілетны праезд.

Як мяркуе дырэктар Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў Вадзім Іпатаў, дзейны памер штрафу за безбілетны праезд пасажыраў у гарадскім транспарце (0,2 базавай велічыні) не забяспечвае папераджальную функцыю заканадаўства аб адміністрацыйнай адказнасці і абарону законных інтарэсаў перавозчыкаў, пра што сведчыць тэндэнцыя росту такіх правапарушэнняў. У сувязі з гэтым законапраект прадугледжвае павелічэнне памеру штрафу за безбілетны праезд у гарадскім грамадскім транспарце з 0,2 да 0,5 базавай велічыні, а ў прыгарадным грамадскім транспарце — з 0,5 да 0,7 базавай велічыні.

*С. Каралевіч, БелаПАН.*

